

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 509 Чэрвень 2005 г.
Год выданьня 55


## Энцыкляпэдыя беларускай дыяспары




На мяжы 20-21 ст. ст. па-за Беларусьсю пражывае каля 3,5 мільёны беларусаў. Нацыянальнае самавызначэньне нашых суродзічаў выявілася ў стварэньні ў замежжы беларускіх грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, навуковых ўстановаў, суполак мастакоў, нацыянальнага друку і асьветы, культурных цэнтраў, музэяў і архіваў, мастацкіх калектываў, пабудове храмаў.

Вывучэньне беларускай дыяспары пачалося фактычна толькі на пачатку 1990-х гадоў і сёньня яно мае добры набытак. Найбольшую ўвагу дасьледчыкаў выклікалі пісьменьнікі-эмігранты, архівы, гісторыя эміграцы; зробленая вялікая праца па складаньні біяграфіяў дзеячоў дыяспары. Аднак засталіся некранутымі важныя аспэкты гісторыі й сучаснага існаваньня дыяспары. З іншага боку, вядома, што кожная галіна гуманістыкі дасягае таго этапу, калі неабходна падвесьці вынікі зробленага. Падобная сытуацыя склалася і з вывучэньнем беларускай дыяспары.

Апісаную праблему зможа вырашыць навуковая сыстэматызацыя праз складаньне разгалінаванай і навукова абгрунтаванай энцыкляпэдыі. Гэта дазволіць падвесьці вынік і аўтарытэтна замацаваць зробленае ў вывучэньні набыткаў беларускай дыяспары. Сама энцыкляпэдыя здолее акрэсьліць новыя тэмы й шляхі дасьледаваньня.

З ідэяй складаньня і выданьня Энцыкляпэдыі Беларускай Дыяспары выступілі Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк) і Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" (Менск).

Праца над ЭБД распачнецца ў бліжэйшы час. Складзеная канцэпцыя, распрацаваны плян дзеяньняў і зьмест навуковага анкетаваньня. Такая праца будзе зьдзейсьненая ўпершыню ў гісторыі беларускай навукі.

Дзеля прафэсыйнай падрыхтоўкі Энцыкляпеды Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва і Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" зьвяртаюцца да гісторыкаў і дзеячоў беларускай дыяспары, а таксама да ўсіх зацікаўленых у справе стварэньня й выданьня энцыкляпэдыі. Запрашаем да супрацоўніцтва і працы над Энцыкляпэдыяй Беларускай Дыяспары. Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" і Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ствараюць арганізацыйны камітэт, які возьме на сябе ініцыятыву па зборы, апрацоўцы, рэдагаваньню і друку ЭБД.

ЭБД мае ўвабраць у сябе: біяграфіі як беларусаў-эмігрантаў, гэтак і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, чыя дзейнасьць была ці ёсьць зьвязаная зь беларускай дыяспарай; артыкулы пра гэаграфічныя мясцовасьці (краіны, гарады), дзе знайшлі прытулак беларусы; арганізацыі (палітычныя, грамадзкія, культурніцкія, навуковыя); парафіі; выдавецтвы й выданьні (часапісы, газэты, кнігі); падзеі й імпрэзы; тэарэтычныя (эміграцыя; нацыянальная думка і інш.), агляднымя артыкулы (школьніцтва; жаночы рух; спорт; скаўцтва), тэрміналёгію (дыпісты; крывічы, зарубежнікі, белбурнацы) і шмат іншага.Ініцыятары праекта будуць удзячныя за любую дапамогу ў падрыхтоўцы й выданьні Энцыкляпэдыі. Пракансультавацца наконт праекту, даведацца ўмовы й патрабаваньні да зьместу і тэрміналёгіі можна па адрасу:

***МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***
***вул. Рэвалюцыйная, 15***
***Менск, 220030***
***BIELARUS***

Альбо зьвяртайцеся на электронныя адрасы: ***zbsb@tut.by*** ці ***zbsb@lingvo.minsk.by***

***Інфармацыйны цэнтар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***

## АТАВА - цэнтар беларускага мастацтва

Канадыйская сталіца Атава апошнім часам сталася сапраўдным цэнтрам беларускага мастацтва. У горадзе жывуць шэсьць беларускіх мастакоў, а менавіта: Алена Ляпко, Івонка Шыманец-Сурвілла, Ірэна Клімковіч, Пётра Шварцман і сёстры Яна і Паліна Клімавы.

***Я. В.***



*На здымку: Алена Ляпко і Івонка Сурвілла на выставе абразоў Алены ў Атаве.*

# КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія сябры! Давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля.**

**Калі:** 25-26 чэрвеня 2005 году.

**Дзе:** Рэзэрвацыя ***Ward Pound Ridge*** ў ***Cross River, NY***.

**Транспарт:** цягнікам са станцыі ***Grand Central*** да прыпынку ***Katonah***. Гэта прыкладна гадзіна язды цягнікам ад Мангэтану на ***Metro North, Harlem Line***.

**Кошт:** **$25** дарослым, **$10** дзецям меншым за 12 гадоў.
Чэкі выпісвайце на ***Mr. & Mrs. Ryzy*** з адзнакаю "***Купальле***". Калі ласка, шліце вашыя замовы разам з формаю, надрукаванаю ніжэй на адрас:
***Piotr & Lena Ryzy***
***20 Old Locust Avenue***
***Cortlandt Manor, NY 10567***

**Кантакты:** **Пётра і Алена РЫЖЫЯ**, хатні тэл. **(914) 734 - 8115**, маб. **(914) 522 - 0742**, электронная пошта: ***LenaBelarus@aol.com***

**Што будзе:** купальскія песьні й танцы, спартовыя спаборніцтвы й гульні, гатаваньне страваў (прынасьце ежу, грылі там будуць).

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, палаткі, ежу, напоі й г. д., а таксама дастаткова фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Арганізатары забясьпечаць дровы для вогнішчаў і вуглі для грыляў.

**Вашае імя:** ____________________

**Лік дарослых ($25 за кожнага):** _____, **дзяцей ($10):** _______ **Усяго дасылаю: $** _____

**Ваш тэлефон:** ______________ **E-mail адрас:** ______________

**Ваш паштовы адрас:** ____________________

____________________

**Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка?** __________ **Калі?** __________

**Ці хочаце, каб Вам даслалі поштаю мапу з інструкцыяй, як даехаць да парку?** ______

# Акцыя пратэсту ў Бруксэлі

Каля амбасады Рэспублікі Беларусь у Бруксэлі 1 чэрвеня 2005 году адбылася акцыя пратэсту супраць рэпрэсіўнай палітыкі рэжыму ў Беларусі ды супраць незаконнага прысуду старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Міколу Статкевічу і лідэру беларускай моладзі Паўлу Севярынцу. Падчас акцыі яе ўдзельнікі спрабавалі перадаць зварот беларусаў Бэльгіі, Францыі й Чэхіі да амбасадара, у якім папярэджвалі беларускія ўлады пра крымінальную адказнасьць за перасьлед апазыцыі.

На сьценах амбасады віселі надпісы: "Амбасада апошняга дыктатара ў Эўропе запрашае..." Неўзабаве да ўдзельнікаў акцыі выйшаў супрацоўнік амбасады, які не хаваў сваю прыналежнасьць да спэцслужбаў. Ён заявіў беларускім актывістам, што іхныя дзеяньні, маўляў, незаконныя. Супрацоўнік амбасады катэгарычна не хацеў размаўляць па-беларуску. Старшыня Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня Зьміцер Піменаў спрабаваў перадаць яму зварот да лукашэнкаўскага амбасадара ў Бэльгіі, аднак дакумэнт быў адхілены. Зварот напрыканцы акцыі ўкінулі ў паштовую скрыню.

Бэльгійскія паліцыянты, якіх выклікалі супрацоўнікі беларускай амбасада, з паразуменьнем паставіліся да беларускіх праблемаў.

*Прэсс-служба БАЗ*

У 2006 годзе мае выйсьці кніга пра палітычнага і вайсковага дзеяча, генэрала Дзьмітрыя Касмовіча (1909-1991 г.). Ён у 1986 годзе скончыў успаміны "За вольную і сувэрэнную Беларусь", у якіх апісаў жыцьцёвы шлях ад навучаньня ў Нясьвіжы да капітуляцыі Нямеччыны ў 1945 годзе. Гэтыя ўспаміны й складуць асноўную частку будучай кнігі.

**Выдаўцы кнігі** (Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", рэдакцыя часапісу "Запісы БІНІМ") зьвяртаюцца да сваякоў Дзьмітрыя і Надзеі Касмовіч-Міцкевіч, ягоных былых паплечнікаў, зацікаўленых асобаў з просьбаю дапамагчы ў фінансаваньні выданьня кнігі. Частку кнігі фундуе ўдава Дзьмітрыя Касмовіча, сп. Надзея Касмовіч-Міцкевіч. Усе ахвярадаўцы будуць пералічаныя ў прадмове да кнігі.

Адрас для кантактаў **рэдакцыя газэты *"Беларус"*:**
***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*працяг з нумару 508*

# Сучаснасьць з эўрапейскім калярытам

## II. Што дало Польшчы яднаньне з Эўропай?

Сяброўства ў Эўразьвязе – гэта ня толькі бязьвізавы ўезд у краіны супольнасьці, ня толькі сумесныя праекты й дадатковае фінансаваньне, новыя рабочыя месцы, рост людзкога дабрабыту.

Працэс інтэграцыі паскорыў заканчэньне пераходнага пэрыяду ад рэстоўрацыі эканомікі, палітыкі, культуры й капітальнага рамонту сацыяльна-бытовой сфэры, разбуранай іншароднай сыстэмай, да будаўніцтва новай нацыянальнай структуры самакіраваньня і самазабесьпячэньня з выкарыстаньнем сусьветнага вопыту.

Працэс інтэграцыі дазволіў кансалідаваць прагрэсіўныя сілы, мэтады, дасягненьні палякаў і эўрапейцаў і стварыць на гэтай аснове маштабны базіс эўрапейскага адзінства.

## IV. Прыступкі да посьпеху

Посьпех у рамках асобна ўзятай сям'і гарантуе годнае жыцьцё, а посьпех у рамках краіны – гэта стабільнасьць ва ўсіх яе сфэрах і адносінах. Уступленьне Польшчы ў Эўразьвяз – гэта адная з праяваў посьпеху, які спадарожнічае краіне. Пра яе складнікі я і скажу.

1. Дэмакратызацыя працэсаў у грамадзтве дапамагла стварыць ліміт даверу палякаў народным абраньнікам, дзейнасьць якіх рэглямэнтуецца Канстытуцыяй, заканадаўствам і кантралюецца выбаршчыкамі.

2. Прыватная ўласнасьць на зямлю, якая запаліла "зялёнае сьвятло" адраджэньня польскай гаспадаркі, у спалучэньні са свабодаю разьвіцьця прадпрымальніцтва сталі моцным фундамэнтам сацыяльнай стабільнасьці.

3. Лібэралізацыя заканадаўства ў сфэры інвэстыцыйнай палітыкі расчысьціла дарогу фінансавым укладаньням, актыўнаму капіталу, гуманітарнай дапамозе, якія накіраваліся ў краіну і пачалі працаваць, прыносячы канкрэтныя вынікі й дывідэнты.

4. Эканамічная дзейнасьць у краіне разьвіваецца ў рамках здаровай канкурэнцыі паміж дзяржавай і прыватнікам і рэгулюецца народнай мудрасьцю "жывыя маюць права на жыцьцё, нябожчыкі – права на спачын", што азначае: любая дзейнасьць, якая не дае вынікаў і ня мае пэрспэктывы, спыняецца.

5. Свабода ва ўсіх яе праявах дазволіла замяніць ранейшую паказную дэкарацыйнасьць працэсаў у краіне на рэальнасьць, напоўненую зьместам, сэнсам і пасьлядоўнасьцю.

6. Узяты курс на ўзнаўленьне, адраджэньне агульначалавечых і духоўных прыярытэтаў паспрыяў узнаўленьню духу здаровага нацыяналізму.

Усе гэтыя дасягненьні й сталі тымі прыступкамі, якія прывялі Польшчу да посьпеху і вывелі яе на шырокі бальшак свабоднай Эўропы. Нядаўняя віртуальная рэчаіснасьць стала яваю.

Пан Езус і вера чалавека ў Яго – неаддзялімыя. Гэта адно цэлае, непараможнае. Яно прымушае любіць жыцьцё, любіць усё сваё, любіць людзей. Любоў нараджае гонар, а ён і ёсьць неад'емнаю часткаю такога пачуцьця як патрыятызм.

## V. Што яднае Польшчу і Беларусь?

Успамінаючы маладосьць, мая маці гаворыць: "Пры Польшчы таму, хто не ленаваўся працаваць, жылося ўежна: каўбасой, лічы, дзьверы нанач завязвалі." І дадае: "Але-ж у кожнага павінна быць свая хата, свая галава на плячах і сваё права." І гэта бясспрэчна.

1. Генэтычная памяць на ўзроўні "свая хата, свая галава, сваё права" закладваецца ў сьвядомасьці людзкой пры нараджэньні й азначае імкненьне кожнага чалавека жыць у незалежнай краіне, спадзявацца на свой розум і кіравацца адзінай канстытуцыяй. Гэта, бадай, асноўнае, што яднае палякаў і беларусаў.

2. Гістарычныя падзеі вымушаюць нас жыць у згодзе. Нібы нітка Арыядны, панна Гісторыя, пераплятаючы інтарэсы нацыяў, вяла нашыя народы праз лябірынты стагодзьдзяў і выпрабаваньняў.

Мінулае – гэта кодэкс гонару нашых продкаў і статут дзейнасьці для цяперашняга пакаленьня Абараняючы інтарэсы сваіх краінаў, гінулі і палякі, і беларусы. Лёс не выбіраў месцаў вечнага спачыну, перамешваў падзеі, даты, жыцьці.

На глыбоцкай зямлі пахаваныя дзяды й прадзеды сёньняшніх палякаў. Месцы смутку – магілкі польскіх жаўнераў па вуліцы Горкага, месца расстрэлу ксяндзоў ва ўрочышчы Барок у гады Другой сусьветнай вайны. Трагедыя нацыяў чорнаю стужкаю ўплеценая ў мінулае нашых народаў, якія імкнуцца жыць у міры і спакоі. Гэтая мэта зблiжае і яднае нас.

3. Тэрытарыяльнае суседзтва таксама зблiжае. Мы – выспачкі ў цэнтры Эўропы, і нашая мэта – рукі ў рукі, сэрцы да сэрцаў, намаганьні да намаганьняў з цывілізаваным сьветам.

4. У нас адзіны славянскі базіс, на якім узводзяцца самабытныя культурна-мастацкія набудовы й фармуюцца агульначалавечыя каштоўнасьці.

5. Рухавіком прагрэсу ў абедзьвюх краінах зьяўляюцца нацыянальны росквіт і дабрабыт, якія стымулююцца эканамічным інтарэсам. Адная справа, што ў Польшчы гэты інтарэс шматвэктарны, а ў Беларусі ўяўляе дарогу з аднабаковым рухам.

Як бачна, у нашых народаў шмат агульнага. І гэтае агульнае – надзея на тое, што ў хуткім часе Беларусь пастукае ў дзьверы эўрапейскага дому, дзе паўнапраўнай гаспадыняй ужо сёньня адчувае сябе нашая суседка Польшча.

## Заключэньне

У маю бытнасьць у Варшаве наведала рэдакцыю "Газэты Выборчай". Даведаўшыся, што я родам з Глыбокага, польскія калегі паказалі мне артыкул пра пісьменьніка Тадэвуша Даленгу-Мастовіча, майго земляка, які

*працяг на бачыне 5*

# Беларусь за месяц

## Супраць дзяржаўнага маразму

У беларускай сталіцы ў травені месяцы прайшло некалькі акцый супраць перайменаваньня галоўных менскіх праспэктаў. 7 траўня, напярэдадні грандыёзных сьвяткаваньняў 60-годзьдзя Перамогі, Лукашэнка падпісаў указ аб перайменаваньні па просьбах вэтэранаў праспэкту Скарыны ў праспэкт Незалежнасьці, а праспэкту Машэрава — у праспэкт Пераможцаў. Робіцца гэта, паводле прэс-службы прэзыдэнта, "дзеля ўшанаваньня вялікага подзьвігу салдат, партызан і падпольшчыкаў, працаўнікоў тылу". Вуліцы Дразда, Ерузалімская, Варвашэні цяпер будуць насіць імя Машэрава, а вуліца Скарыны стане Старабарысаўскі тракт на паўночнаўсходнім ускраі сталіцы.

Абсалютовая бальшыня менчукоў лічыць рашэньне прэзыдэнта бязглуздым. Газэта "Камсамольская праўда ў Беларусі" нават спрабавала ў чыноўнікаў высьветліць імёны вэтэранаўініцыятараў ці, прынамсі, адшукаць заяву-зварот, але марна. Апроч ідэалягічнай бязглуздасьці, перайменаваньне нясе шмат нязручнасьцяў. Трэба мяняць прапіску шараговым грамадзянам, а гэта дзесяткі тысяч людзей, і займацца перарэгістрацыяй фірмаў, офісаў, якіх багата на згаданых праспэктах.

У Менску амаль адразу пачаліся акцыі пратэсту. Так, Аб'яднаная Грамадзянская Партыя прапанавала правесьці гарадзкі рэфэрэндум аб вяртаньні былых назваў (з праспэктаў Скарыны і Машэрава ўжо пазьбівалі шыльды з назвамі Машэраў і Скарына). У адказ на запыт Цэнтарвыбаркам заявіў, што, каб ініцыяваць плебісцыт, патрэбна 120 тыс. подпісаў грамадзянаў, што сабраць ня так і цяжка. У сталіцы на паседжаньні пастаянна дзейнага савету дэмакратычных сілаў прынялі рашэньне пра стварэньне ініцыятыўнай групы па арганізацыі рэфэрэндуму, куды ўвайшло 500 чалавек.

## Акцыі моладзі

Моладзь адразу адгукнулася акцыямі пратэсту супраць перайманаваньняў праспэктаў у Менску. Першая флэш-моб (спантанная масавая акцыя) прайшла 10 траўня. На Кастрычніцкай плошчы некалькі дзесяткаў маладых людзей пашыхтаваліся ў ланцуг. Але міліцыя разагнала ўдзельнікаў акцыі, затрымаўшы некалькі чалавек. На наступнай акцыі, 12 траўня, моладзь размалёўвала асфальт на праспэктах Скарыны й Машэрава. 15 траўня адбыўся "перасоўны" ланцуг. Моладзь (арганізацыі "Малады Фронт", "Вока", "Моладзь БНФ") у строях, стылізаваных пад XVI ст. і партрэтамі Ф. Скарыны ў руках, прайшла ад Кастрычніцкай плошчы да Якуба Коласа. Далей удзельнікаў акцыі не пусьціла міліцыя, праверыўшы некалькі затрыманьняў. 24 траўня сябры Маладога Фронту, моладзевай ініцыятывы "Вока", "Моладзі БНФ" зладзілі чарговы пэрформанс ля будынка Камітэта дзяржбясьпекі, які таксама скончыўся затрыманьнямі. У гэты-ж дзень прадстаўнікі аб'яднанай апазыцыі (старэйшае пакаленьне) зладзіла сваю акцыю на праспэкце Машэрава. Скончылася акцыя амаль без затрыманьняў (затрымалі аднаго чалавека). Нягледзячы на запалохваньні, акцыі будуць доўжыцца і далей.

## Сур'ёзныя праблемы "Народнай Волі"

Над буйнейшай незалежнай газэтай краіны "Народнай Воляй" (выданьне штодзённае, выходзіць накладам 29 000 асобнікаў) навісла пагроза закрыцьця. Так, як пісаў "Беларус", пазоў у суд Ленінскага раёну Менску падаў старшыня Лібэрал-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, які патрабуе кампэнсацыі 200 млн. рублёў (каля $92 000) за абразу яго гонару і годнасьці. "Народная воля" абвінаваціла Гайдукевіча і ЛДП у супрацоўніцтве з рэжымам Садама Гусэйна. Паседжаньне суду, прызначанае на 25 траўня, было перанесенае на 3 чэрвеня з-за таго, што ня ўсе дакументы, пададзеныя ў суд, былі перакладзеныя з ангельскай мовы.

Апроч таго, узьніклі праблемы з грамадзкай ініцыятывай "Воля народу", якую ўзначальвае былы рэктар БДУ Аляксандар Казулін. "Народная воля" некалькі разоў надрукавала сьпісы грамадзянаў, што далучыліся да грамадзкай ініцыятывы. Праз пэўны час у суды пачалі зьвяртацца асобы, якія заяўляюць, што не падпісваліся пад зваротам "Волі народу" і патрабаваць кампэнсацыі за ўзьніклыя на працы праблемы. Незалежныя экспэрты зазначаюць, што тут можа быць як простае запалохваньне работнікаў, якія працуюць на дзяржаўных прадпрыемствах (усе пазовы нібы пісаныя пад капірку), так і элемэнтарныя прыпіскі людзей, што зьбіралі подпісы. Судовыя разборы па пазовах яшчэ не прызначаныя. Але калі ўсе пазовы будуць задаволеныя, газэта ня зможа выплаціць штрафы і, хутчэй за ўсё, закрыецца.

## Арышт Скрабца

15 траўня быў затрыманы былы дэпутат групы "Рэспубліка" Сяргей Скрабец. Яго даставілі ў сьледчы ізалятар Берасьця, абвінаваціўшы ў тым, што ён нібы хацеў даць чыноўніку хабар у памеры $30 000 за вызваленьне аднаго асуджанага. 23 траўня экс-дэпутату прад'явілі абвінавачваньне паводле двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу— ч. 1, арт. 13 (падрыхтоўка да злачынства) і ч. 2. арт. 431 (даваньне хабару). У менскай кватэры палітыка апісалі маёмасьць (мэбля і прадметы хатняга ўжытку). Зроблена гэта ў кошт пагашэньня судовай запазычанасьці. У сакавіку палітык быў аштрафаваны на 4,8 млн. рублёў ($2,2 тыс.) за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу прадпрымальнікаў. У дзень затрыманьня, палітык абвясьціў галадоўку.

У сярэдзіне 1990-х Скрабец кіраваў Гандлёвым домам "БелБабаеўскі" і быў абвінавачаны ў незаконным атрыманьні дзяржаўных крэдытаў. У 2000 годзе ён быў абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў і увайшоў у апазыцыйную групу "Рэспубліка". У чэрвені 2004 году ён стаў адным з удзельнікаў палітычнай галадоўкі пратэсту. У верасьні, напярэдадні парлямэнцкіх выбараў, Скрабца зьнялі з выбарчай гонкі. Страціўшы дэпутацкую недатыкальнасьць, ён зьвярнуўся да прэзыдэнта Расеі Пуціна з просьбаю аб палітычным прытулку. Просьбу не задаволілі. У красавіку сёлета БТ паказала сюжэт аб затрыманьні спэцслужбамі кур'ера, які вёз зь Вільні $200 000 для фінансаваньня палітычнай дзейнасьці С. Скрабца. Цяпер яму пагражае абмежаваньне волі тэрмінам да пяці год, альбо пазбаўленьне волі ад двух да сямі гадоў.

## Працэс Статкевіча і Севярынца

23 траўня ў судзе Цэнтральнага раёну Менску пачаўся працэс над Міколам Статкевічам (старшынём Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада") і экс-кіраўніком Маладога Фронту Паўлам Севярынцам. Іх вінавацяць у арганізацыі несанкцыянаваных вулічных акцыяў пратэсту пасьля кастрычніцкага рэфэрэндуму, што прайшлі 18 і 19 кастрычніка ў Менску. Палітыкам пагражае штраф ці арышт да шасьці месяцаў альбо абмежаваньне волі да трох гадоў, альбо пазбаўленьне волі на той-жа тэрмін. 24 траўня Статкевіча асудзілі на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту за непавагу да суду. Па словах судзьдзі, палітык адмаўляўся адказваць на пытаньні й не ўставаў, калі да яго зьвяртаўся судзьдзя. Пракурор папрасіў асудзіць Статкевіча і Севярынца на тры гады абмежаваньня волі (так званай "хіміі"), пра якую ўжо прайшлі журналісты Мікола Маркевіч, Павал Мажэйка ды намесьнік старшыні партыі БНФ Віктар Івашкевіч.

## Наступ на палякаў

Міністэрства юстыцыі прызнала Шосты зьезд Саюзу палякаў Беларусі, што прайшоў у сакавіку, нелегітымным. Прычыны, на думку чыноўнікаў міністэрства, парушэньне статуту, наяўнасьць асобаў, што не зьяўляліся дэлегатамі й недэмакратычнасьць. На зьезьдзе быў зьняты з пасады пралукашэнкаўскі кіраўнік Тадэвуш Кручкоўскі, выкладчык Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а новай старшынькай абраная Анжаліка Борыс. Прычыны зьмяшчэньня маральныя. Студэнтка абвінаваціла Кручкоўскага ў сэксуальных дамаганьнях.

Мінюст спачатку рэкамэндаваў Галоўнай радзе СПБ, абранай на Пятым зьезьдзе, у двухтыднёвы тэрмін вызначыць парадак дня, месца і дату правядзеньня зьезду, падкрэсьліўшы, што "ў адпаведнасьці са Статутам СПБ, да перавыбраньня паўнамоцтвы захоўваюць органы і асобы , выбраныя на папярэднім, пятым, зьезьдзе СПБ", а ў канцы месяца вуснамі міністра Віктара Галаванава вынес канчатковы прысуд: Шосты зьезд СПБ быў нелегітымным.

Канфлікт разросься. 18 травеня Міністэрства замежных справаў РБ аб'явіла дарадцу польскай амбасады Марка Буцьку пэрсонай нон-грата, "рэкамэндаваўшы" пакінуць Беларусь цягам месяцу і патлумачыўшы высылку "крокамі Буцькі па дэстабілізацыі беларускага грамадзтва". У абавязкі Буцькі ўваходзілі кантакты зь беларускімі палітычнымі партыямі й грамадзкімі аб'яднаньнямі, у тым ліку і Саюзам Палякаў Беларусі. У адказ МЗС Польшчы абнародавала сьпіс зь дзесяці беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у Польшчу. У сьпісе і міністар юстыцыі Віктар Галаванаў.

## Рада за Коласа

28 траўня ў лесе за некалькі дзесяткаў кілямэтраў ад Менску, у Вялейскім раёне, адбыўся III сход беларускай інтэлігенцыі. У зьезьдзе бралі ўдзел каля 60 дэлегатаў і каля 50 гасьцей. Галоўным пытаньнем парадку дня Сходу было вылучэньне старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі, дырэктара Беларускага ліцэя, Уладзімера Коласа прэтэндэнтам у адзіныя кандыдаты на пасаду прэзыдэнта ад дэмакратычных сілаў.

## Беспрацоўе ў Беларусі

Паводле Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, узровень беспрацоўя ў Беларусі па становішчы на 1 траўня склаў 1,8 адсотка ад колькасьці эканамічна актыўнага насельніцтва краіны. Год таму 1 траўня гэты паказчык складаў 2,8%, 1 траўня 2003 году — 3,3%. За студзень — красавік 2005 году па пытаньні спрыяньня ў працаўладкаваньні да дзяржаўнай службы занятасьці зьвярнуліся 98,2 тыс. чалавек, статус беспрацоўнага атрымалі 73,5 тыс. чалавек. Усяго беспрацоўных у Беларусі на 1 траўня зарэгістравана 94,8 тыс., супраць 144,9 тыс. год таму. Сярэдні памер грашовай дапамогі па беспрацоўі ў месяц складае 34 тыс. 709 руб. ($16)

## Насельніцтва менее

За студзень – красавік 2005 году колькасьць насельніцтва Беларусі паменела на 15,5 тыс. чалавек і цяпер складае 9 млн. 784,6 тыс. За гэты час памерла 37,6 тыс. чалавек, калі нарадзілася толькі 21,9 тыс. Найбольшае значэньне натуральнага зьмяншэньня колькасьці насельніцтва зафіксавана ў Віцебскай вобласьці (9,7 чалавека на 1000 чалавек), далей ідуць Менская (9,3), Магілёўская (8,9), Гарадзенская (8,6), Гомельская (7,6), Берасьцейская (5,6) вобласьці. У Менску — 1,1 чалавека на 1000 чалавек.

## Рубель затрымліваецца

Расейскі рубель у якасьці адзінай валюты так званага саюзу Беларусі й Расеі ня будзе ўведзены з 1 студзеня 2006 году. Пра гэта заяўляюць у Нацыянальным банку краіны. Прычыны – тэхнічныя. Да Новага году немагчыма выканаць усе перадумовы ўвядзеньня адзінай валюты, нават калі гэта запатрабуюць у загадным парадку абодва прэзыдэнты.

*Уласны карэспандэнт*

# Прэзэнтацыя збору правілаў

У сядзібе ТБМ 23 траўня адбылася прэзэнтацыя выданьня "Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя". Укладальнікі выданьня - працоўная група ў складзе Вінцука Вячоркі, Юрася Бушлякова, Зьміцера Санько і Зьміцера Саўкі, якія працавалі над кнігаю 10 гадоў.

Паводле сп.Вячорка, шматгадовая праца дайшла да пэўнага прамежкавага выніку: клясычны правапіс у тым выглядзе, у якім ён бытуе на пераломе тысячагодзьдзяў, сёньня скадыфікаваны. Гэта прывядзе да зьмяншэньня стыхійнага разнабою так званых "рэдакцыйных" варыянтаў тарашкевіцы, стыхійна ўтвораных правапісных гібрыдаў. Праца над правапісам дазволіла выявіць сумны факт: цэлыя галіны беларускага мовазнаўства сёньня недастаткова разьвітыя. Гэта марфаналёгія складаных словаў, праблема пабочнага націску. Гэта і асваеньне запазычаньняў. А яно зьвязанае з праблемаю цывілізацыйнае прыналежнасьці Беларусі, беларускае культуры, нашага месца на сутыку лаціна-германскай і бізантыйскай традыцыяў. Фармулюючы рэальна існыя ў моўнай практыцы правілы, мы выходзілі зь досьведу папярэднікаў. Яны інтуітыўна адчувалі традыцыю, якая ішла з сярэднявечча: Беларусь – частка эўрапейскае, ня ўсходняе, цывілізацыі.

Ніводнага напісаньня ўкладальнікі ня выдумалі. Усё ў нейкім кшталце ўжо існавала ў беларускай моўнай прасторы клясычнага правапісу.

Паводле сп. Вячоркі, клясычная правапісная традыцыя дазваляе лёгка канвэрсаваць тэкст з кірыліцы ў лацінку й наадварот. Калі мы дбаем пра адкрытасьць беларускае мовы навакольнаму сьвету, у тым ліку графічную, то клясычны правапіс у гэтым сэнсе аптымальны.

Праца гэтая носіць адкрыты характар і будзе зьмешчаная ў інтэрнэце.

*З інтэрнэт-рассылкі Партыі БНФ*

***Рэдакцыя газэты "Беларус" прыкладзе намаганьні прытрымлівацца правілаў, выкладзеных у прэзэнтаванай працы, адразу як толькі зможа яе прыдбаць.***

**З дырэктарам БІНІМ доктарам Вітаўтам Кіпелем аб знаёмстве й супрацоўніцтве з Васілём Быкавым гутарыць карэспандэнт газэты "Беларус".**

# Так было

## Да другіх угодкаў Ягонае сьмерці

**"Беларус"**: *Сп. Кіпель, калі эміграцыя ўпершыню дачулася пра В. Быкава? Як гэта адбывалася?*

**Др. В.Кіпель**: Знаёмства з творчасьцю Васіля Быкава пачалося ад канца 50х-пачатку 1960-х гадоў. У часапісе "Беларуская Моладзь" мы падалі невялікую зацемку аб ім на падставе публікацый амэрыканскага друку. Асабіста я больш ведаў пра творчасьць Быкава, бо працуючы ў бібліятэцы часта сустракаўся з спн. Верай Александравай, ведамым расейскім літаратурным крытыкам, якая чытала ягоныя творы ў расейскіх выданьнях ды прарочыла яму тытул "найглыбейшага знаўцы-псыхоляга Другой Сусьветнай вайны". Памятаю таксама, што на адной з сустрэчаў з В. Александравай аб прозе Быкава падрабязна выказваўся эстонскі паэт А. Раніт.

**"Беларус"**: *Ці рабілі якія спробы навязаць лучнасьць зь ім?*

**Др. В. Кіпель**: Спадзяваліся, што пазнаёмімся, у 1983 годзе, калі пісьменьнік быў запрошаны на Ўнівэрсытэт Ратгэрс у штаце Нью Джэрзі, дзе адбывалася беларусаведная канфэрэнцыя, але Быкаў прыехаць ня здолеў. "Ня змог", як паведамлялася афіцыйна, прыехаць ён і ў 1990 годзе на канфэрэнцыю, прысьвечаную Вялікаму Княству Літоўскаму ў Рыме, куды мы яго запрашалі. Так што парукаліся толькі ў 1991 годзе, калі мы атрымалі дазвол браць удзел у канфэрэнцыі беларусістаў у Менску. Нашае знаёмства напачатку было афіцыйнае, "шапачнае", хоць Васіль Быкаў распытваў, у якіх бібліятэках Захаду й ЗША ёсьць ягоныя кнігі.

Паступова знаёмства пераходзіла ў супрацоўніцтва. Спн. Зора, якая адмыслова вывучала пераклады В.Быкава ў ангельскую мову ды рэкамэндавала некаторыя ягоныя творы для перакладаў і выданьняў амэрыканскім выдавецтвам, папрасіла пісьменьніка – адбывалася гэта ў часе сьвяткаваньня ягонага 70-годзьдзя ў памешканьні БНФ на Варвашэні – выказацца адносна расейскамоўных перакладаў. Быкаў ахвотна гэта зрабіў, і плён іхнае працы быў скарыстаны ў артыкуле ў "Запісах БІНІМ", №22, 1996.

**"Беларус"**: *Што пісьменьнік цікавіцца лёсам уласных твораў, зразумела. А ці выказваў ён зацікаўленьне жыцьцём і справамі эміграцыі?*

**Др. В. Кіпель**: Мы пазнаёміліся бліжэй, а знаёмства перайшло ў сяброўства-супрацоўніцтва на сустрэчах-канфэрэнцыях у Ісласчы, дзе разам бралі ўдзел у працы паседжаньняў журы прэміі імя Алеся Адамовіча. Мы шмат дыскутавалі: чаго не стае беларускай літаратуры для папулярнасьці на Захадзе? І вось тады Быкаў распытваў нас – а што-ж такое беларуская эміграцыйная літаратура? Аднойчы сказаў, што было-б цікава напісаць эпапею пра ліцьвіноў-беларусаў, эмігрантаў, першаадкрывальнікаў Сібіры, Паўдзённай Амэрыкі, ЗША. Але выглядае, што тэма вайны не адпусьціла.

Тады-ж я падараваў Быкаву багата эміграцыйных выданьняў, заўсёды высылаў яму нашыя новыя друкі.

**"Беларус"**: *І размовы паміж пісьменьнікам-франтавіком і былымі сябрамі Саюзу Беларускай Моладзі ішлі без канфліктаў? Ці было паразуменьне?*

**Др. В. Кіпель**: У Празе ў 1997 годзе адбывалася зарганізаваная спн. Ганнай Сурмач канфэрэнцыя, на якую мы таксама былі запрошаныя. Цэлы тыдзень давялося нам жыць у гатэлі гэткага сямейнага тыпу – нібы ў камуналцы. Адзін пакой займалі мы з Зораю, а другі – Васіль Быкаў і Радзім Гарэцкі; агульнымі былі сталоўка й лазенка. Удзень адбываліся розныя мерапрыемствы, а ўвечары мы сядзелі "дома": гутарылі, згадвалі мінулае, разам марылі. Найбольш ішлося, зразумела, пра Беларусь. Як клаліся спаць – а сьценкі былі танюсенькія, бы ў бараках, - дык слухалі расказы Быкава аб мінулай вайне, пра сёньняшнія творчыя пляны. Расказваў ён аніяк ня горш, як пісаў: цікава, займальна. Але вось аднае раніцы Зора ня вытрымала й кажа Васілю: "Цікава Вас слухаць, але ніяк не магу згадзіцца, што Вы кожны раз паўтараеце "наш батальён", "наш фронт", "нашая армія"!!! На гэта Быкаў мякка, з разуменьнем адказаў: "Дык гэта-ж і не нашае беларускае, але было з намі, і мы былі часткаю таго – нашага". І ў гэткія хвіліны мы добра разумелі адзін аднаго, мы станавіліся новым нашым, нашым – беларускім.



*Зора Кіпель, Васіль Быкаў, Вітаўт Кіпель.*

Адным вечарам Быкаў выказаўся, што выдатны твор быў-бы як апісаць беларускае жыцьцё XX стагодзьдзя, працэсы, якія прынесьлі гэтулькі гора: раскулачваньне, лягеры, вайна. Мы адказалі, што даўно маем ідэю скласьці бібліяграфію твораў-сьведчаньняў разгрому беларускага сялянства, арыштаў 30-х гадоў. Мы былі рознымі, з розным вопытам, але нашыя думкі, ідэі, пагляды й нават мары былі моцна падобнымі.

**"Беларус"**: *Вашыя праскія размовы былі апошнімі?*

**Др. В. Кіпель**: У пазьнейшыя гады сувязь трымалася лістоўна. Часам абменьваліся патрэбнымі даведкамі, інфармацыяй. Быкаў прыслаў свае апавяданьне, якое мы надрукавалі ў "Запісах" (ці вядомае яно на Бацькаўшчыне?), падараваў Зоры амаль усе свае выданьні. І мы дасылалі яму нашыя кнігі.

У апошнія гады Быкаў усё болей адыходзіў ад мастацкае прозы. Пра гэта сьведчаць ягоныя ўласныя ўспаміны, запісы ўспамінаў Б.Кіта. На гэта трапна зьвярнуў увагу ў апошнім "ARCHE" літаратуразнаўца М. Тычына. І калі ў 1999 годзе я паслаў Васілю нашае выданьне "Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі", ён адказаў такім лістом з Фінляндыі: "*Шаноўныя спадарыня Зора, шаноўны спадар Вітаўт! Дзякуй Вам вялікі за "Беларускую мэмуарыстыку", якую я атрымаў і адразу-ж прачытаў. Кніга вельмі цікавая, добра надрукаваная й чытаецца з захапленьнем. Каб такіх кніг было болей! Беларусь павінна ведаць лёсы й справы сваіх апосталаў. У тым ліку і на эміграцыі. Можа быць, найлепшыя ўспаміны Натальлі Арсеньневай. І лёсам, і літаратурай. Вялікі дзякуй укладальніку Лявону Юрэвічу й друкару Міколу Пruскаму. Буду ўдзячны Вам, калі прышлеце нешта яшчэ. Я тут да канца года. А пасьля будзе відаць. Бывайце здаровыя. І посьпехаў вам у беларускай справе. Ваш Васіль Быкаў*". А вось што ён напісаў пасьля прачытаньня "Эпізодаў" Яўхіма Кіпеля: "*Шаноўны спадар Вітаўт, надта Вы мяне ўсхвалявалі і ўсьцешылі прысланымі кніжкамі, асабліва "Эпізодамі" Вашага пакутнікабацькі. Чытаў я з болем, з захапленьнем, зь няспынным адчуваньнем бяды, якая ўсьселася й не зьлязае з нашага нацыянальнага карку. Дужа-дужа шкада шчырых і гарачых памкненьняў дайніх і цяперашніх нашых людзей, якія зьнікаюць у нікуды. У пясок і попел гісторыі.. Але, пэўна, такое нашае наканаваньне, і гэты крыж несьці беларусам аж да сканаьня. Але-ж – ня кінуць!*

*Шчасьця Вам і ўдачы ў далёкім Заакіяньні. Сардэчнае вітаньне мілай сп. Зоры. Будзьце здаровенькія! Ваш Быкаў (фінскі)*".

**"Беларус"**: *Ці зрабіла ў быкавазнаўства свой унёсак эміграцыя?*

**Др. В. Кіпель**: Эміграцыя рана азнаёмілася з Быкавым. Было шмат літаратуразнаўцаў. Вывучала творчасьць пісьменьніка В. Арэхва, багата аналізаваў Ст. Станкевіч, Я. Запруднік, А. Акуліч. Быкава вывучалі ў амэрыканскіх каледжах. Як сказаў раней, Зора Кіпель вывучала пераклады ягоных твораў; а перакладаў ёсьць у панад 60 моваў. Бадай, не памылюся, калі скажу, што найбольшы знаўца творчасьці Быкава на Захадзе – прафэсар Зіна Гімпелевіч. У яе ў Канадзе неўзабаве выходзіць кніга. Прафэсар Т. Бэрд рабіў некалькі дакладаў пра Быкава. Пісаў, і няшмала, прафэсар А. Макміллін.

Упершыню ў ЗША М.Прускі выдаў кніжкаю "Мёртвым не баліць" у 1965 годзе, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва прысьвяціў 22-і выпуск "Запісаў" Васілю Быкаву. У Нью Ёрку на Куінсаўскім Каледжы спн. Алена Акуліч прысьвяціла вялікую бібліяграфію Быкаўскім творам (1985). Ды і ў англамоўным літаратурным друку былі сотні паасобных аналізаў творчасьці нашага пісьменьніка.

**"Беларус"**: *Дзякуй Вам вялікі за гутарку.*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №6 (473)


# Травеньскі штогадовы справаздачна-выбарчы сход

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 15 траўня адбыўся сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. У сваёй прамове ён спыніўся на бягучым палітычным моманце ў Беларусі й на палітычных тэхналёгіях, якія рэжым Лукашэнкі карыстае для захаваньня ўлады. У прыватнасьці прамоўца прааналізаваў дзеяньні А. Казуліна, прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта Беларусі, які на пытаньне, ці гаворыць ён па-беларуску, адказаў: «Па-беларуску не размаўляю, але калі будзе трэба — вывучу». Да тэхналёгіяў таксама належыць незаконнае перайменаваньне прасьпектаў Скарыны й Машэрава. Гэта робіцца з мэтаю падаўленьня духу грамадзтва, зьнявагі нацыянальнай годнасьці. У выпадку са Скарынам перайменаваньне рыхтавалася даўно, рэжыму карцела ліквідаваць такую знакавую, нацыянальна акрэсьленую асацыяцыю у назве галоўнай вуліцы сталіцы Беларусі. З Машэравым больш складана — пры Кебічу быў створаны культ Машэрава і міф аб добрым рупліўцу і «анёлу-абаронцы» Беларусі ў савецкі час. Лукашэнка скарыстаў гэты культ, але цяпер, відаць, сам лічыць сябе такім анёлам, і рыхтуе ўласны культ. Прамоўца спыніўся на аналізе дзейнасьці П. М. Машэрава на пасадзе камуністычнага гаспадара Беларусі, які пасьлядоўна душыў беларускую культуру і зьліквідаваў беларускае школьніцтва ў гарадох Беларусі. Чаго вартая «апэрацыя "Галінкі"», калі тысячамі людзей адрывалі ад працы й кідалі высякаць гальлё на корм для калгаснай скаціны, марнуючы сродкі й працоўны час. Машэраў асабіста загадаў зьнішчыць Нямігу — легендарны гістарычны цэнтар Менску. Менавіта адтуль, са зьнішчэньня гістарычнай памяці, вытаптваньня мовы й культуры ідзе і сёнешняя антынацыянальная палітыка рэжыму Лукашэнкі, які аказаўся спрытным вучнем машэраўскіх мэтадаў дэнацыяналізацыі беларускага грамадзтва. Сп. Пазьняк адмыслова спыніўся на сродках, якімі ня грэбавалі ўжываць камуністычныя ўлады дзеля зьнявагі беларускай мовы, выціcканьня яе з сфэры адукацыі. Пазьней гэткія-ж брудныя сродкі ўжываліся дзеля кампрамэтацыі аднаўляючагася беларускага вызвольнага руху і Беларускага Народнага Фронту. Гэткія-ж брудныя сродкі, паклёп і хлусьню актыўна карыстае лукашэнкаўская прапаганда. Нажаль, гэтая прапаганда імкнецца пралезьці і ў асяродкі беларусаў замежжа, і гэтаму трэба паставіць заслону.

Сакратар парафіяльнай рады Сабору Сьв. К. Тураўскага сп. Барыс Данілюк выступіў з заклікам актыўна падтрымаць дзейнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ). Гэтая Царква шмат зрабіла для забесьпячэньня духовых патрэбаў і кансалідацыі беларусаў на чужыне. І нашыя ворагі ня могуць гэтага дараваць. Дзейнасьць БАПЦ на Бацькаўшчыне забароненая, і ў шэрагах самой Царквы робіцца спроба дывэрсіі, інсьпіраванай антыбеларускімі сіламі. Адказам на гэта мусіць быць нашая салідарнасьць і садзейнічаньне БАПЦ.

Затым адбылася прэзэнтацыя выставы карцінаў мастака сп. Алеся Шатэрніка. Сп. Шатэрнік паказаў свае творы, распавёў пра стварэньне іх, а таксама спыніўся на сваёй творчай дзейнасьці. Мастак прачытаў свае паэтычныя творы, якія ён заве "імпрэсіямі". Шчырыя пранікнёныя радкі, і пачуцьці, што ўкладзены ў іх, былі прыхільна сустрэтыя слухачамі.

У другой частцы сходу прайшлі справаздачы й выбары кіраўніцтва Нью Ёркаўскага аддзелу БАЗА. Адмыслова абраная выбарчая камісія, старшынём якой стаў сп. Анатоль Тальянскі, правяла рэгістрацыю асобаў з правам голасу. Са справаздачамі выступілі старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка і скарбнік аддзелу сп. Валеры Дворнік. Затым адбылося высоўваньне кандыдатураў, на галасаваньне была пастаўлена кандыдатура дзейнага старшыні, сп. Зайкі. Перад галасаваньнем ён коратка выклаў сваю праграму і асноўныя кірункі плянуемай дзейнасьці. Па выніках галасаваньня сп. Зайка быў пераабраны на пасаду старшыні аддзелу.

Склад управы аддзелу быў таксама пераабраны сьпісам. У выніку былі пераабраныя наступныя асобы: Ю. Андрусышын, Ф. Бартуль (сябар рэвізійнай камісіі), А. Орса-Романо, А. Міцкевіч (ганаровы старшыня), М. Клакоцкі (намесьнік старшыні), В. Дворнік (скарбнік), З. Левіт (сябар рэвізійнай камісіі), С. Пятровіч, В. Едзіновіч, А. Колбун, Ул. Э. Рыжы (старшыня рэвізійнай камісіі), У. Цяліца, Т. Красоўская, В. Зайка (старшыня), В. Якімовіч (сакратар). Прысутныя пажадалі пераабраным плённай працы.

*Віталь ЗАЙКА*

# Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **12 чэрвеня 2005 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217.***

Пачатак апаўдні пасьля Літургіі ў Саборы. Запрашаем ўсіх, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі. Даезд падземкай A, C да станцыі *Hoyt-Shermerhorn St.*, або падземкай F да станцыі *Bergen St.*

## Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| А. Барыла | 30 | І. Ігнатовіч | 30 |
| Н. Гайнутдзінава | 30 | Т. Красоўская | 30 |
| Д. Дабычына | 30 | М. Мухіна | 30 |
| В. Дворнік | 30 | А. Пархач | 30 |
| Г. Дзем'яненка | 30 | А. Пляшэвіч | 30 |
| Ю. Дзянісава | 30 | А. Орса-Романо | 30 |
| В. Дудараў | 30 | А. Тальянскі | 30 |
| В. Дуля | 30 | Н. Ткачук | 30 |
| Ю. Дуровіч | 30 | І. Чэрапанаў | 30 |
| Г. Залеўская | 30 | А. Шукелойць | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце, калі ласка, на адрас:**
***Valeri Dvornik***
***172 Millspring Rd.***
***Manhasset, N.Y. 11030***
**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

*Заканчэньне з бачыны 2*

жыў і працаваў у Польшчы. І страпянулася ад гонару душа: так! Гэты выдатны творца, адораны лёсам чалавек, нарадзіўся на Глыбоччыне. А папулярны ў нас фільм "Знахар", пастаўлены паводле ягонага твору, і сёньня лічыцца шэдэўрам польскага нацыянальнага мастацтва.

Гартаю кніжачку пра гісторыі Глыбокага на польскай мове і разумею, што палякаў цікавіць усё, чым жыве Беларусь.

Польскія газэты пішуць пра палітычнае і эканамічнае "надвор'е" ў Беларусі, пра зьнешнепалітычны "клімат", навуку, культуру, адукацыю. Прычым, працуюць на сваёго чытача, малюючы партрэт Беларусі на фоне часу ня толькі газэты ў самой Польшчы, але і польскія газэты ў замежжы. Так польскамоўныя выданьні ў Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе не абмінаюць вострых праблемаў беларускай сучаснасьці, мадэлююць працэсы польска-беларускага супрацоўніцтва.

У лёсавызначальныя для Беларусі дні, на выбарах прэзыдэнта, разам са мною працавалі польскія студэнты Марцін і Агнешка. Маладыя людзі былі зацікаўленыя ў зьменах, якія дапамогуць нам знайсьці перспэктыву...

Паміж Польшчай і Беларусьсю усталяваныя сталыя кантакты ў сфэры адукацыі, пасьпяхова ажыцьцяўляюцца праграмы культурнага абмену. Рэалізацыя сумесных выдавецкіх праектаў узбагачае гісторыка-літаратурную спадчыну Беларусі...

З кожным годам расьце колькасьць польска-беларускіх прадпрыемстваў. Польскі капітал падстаўляе плячо беларускаму бізнэсу...

Суладзьдзе мэтаў і плянаў яднае карэнных жыхароў Польшчы з сябрамі Саюзу Палякаў, якія працуюць у кожным рэгіёне Беларусі...

Асьветніцка-адукацыйную працу праводзяць сьвятары каталіцкіх храмаў, якія прывіваюць нашым дзеткам любоў да Госпада, любоў да роднай беларускай мовы й паказваюць прыгажосьць мовы польскай. Зьбліжаецца вера, бруяцца мовы, лучацца адно да аднаго дзіцячыя сэрцы, яднаюцца два народы...

Не прападае дарма нястомная праца супрацоўнікаў польскай амбасады ў Беларусі. Яны ня толькі знаёмяць палякаў са славутасьцямі й дасягненьнямі Беларусі, але і вызначаюць накірункі, праграмы сумеснай дзейнасьці на будучае.

Канкрэтныя крокі, сур'ёзныя рашэньні, трывалыя сувязі – зарука сяброўскага польска-беларускага мацунку. А ён – надзея на тое, што Польшча стане праваднікам і гарантам нашых пераўтварэньняў за мяжою, што яна будзе прэзэнтаваць нашыя посьпехі ў Эўропе і замовіць слоўца за Беларусь, краіну, якой даволі ўжо блытацца ў асяродку ўтопіі й эпігонства, і якой час і месца ў дэмакратычнай цывілізаванай хаце...

* * *

Далікатным васільком блакітнее ў сусьвеце мая любімая матуля Беларусь. "Гвяздай зладзістай" вабіць вока прыязная Польшча.

Беларусь і Польшча – суквецьце надзеяў у адзіным букеце.

Для нас пачынаецца адзін Божы дзень.

Для нас сьвеціць адное сонейка...

У нас адзін шлях у сьветлае сумеснае ЗАЎТРА.

*Галіна СУТУЛА,*
*журналістка з Глыбокага*

# Маладзёвая старонка

Паважаныя чытачы!

Прапаноўваем Вашай увазе другі нумар маладзёвай старонкі. Мы атрымалі водгукі з боку чытачоў, якія вельмі пазытыўна выказаліся аб ініцыятыве стварэньня старонкі, накіраванай на маладзёвае чытацкае кола. Справа гэтая, як мы ўпэўніліся, патрэбная, але і новая, таму мы разьлічваем на падтрымку з боку чытачоў. Нам неабходна ведаць, што цікава маладой аўдыторыі, якія тэмы й матар'ялы моладзь хацела-б бачыць на гэтай старонцы. Поле магчымых рубрыкаў і артыкулаў старонкі не абмежаванае, і кожны можа стаць іхным аўтарам. Мы прапаноўваем Вам, шаноўныя чытачы, абраць назву, а ці будзе яна патрыятычнай, ці гумарыстычнай, ці яшчэ якой залежыць ад Вас. Калі ласка, дасылайце Вашыя ідэі, прапановы, заўвагі, матар'ялы на адрас рэдакцыі (hazetabielarus@att.net) ці адказнага за маладзёвую старонку (moladz_bielarus@tut.by). Чакаем на Вашыя водгукі.

*Рэдакцыя маладзёвай старонкі*

## Цытата нумара:

**Адзінай мэты не зракуся,**
**І сэрца мне не задрыжыць:**
**Як жыць – дык жыць для Беларусі.**
**А безь яе – зусім ня жыць.**

***Ларыса ГЕНІЮШ***

## Навіны

### Нашыя сьцягі на "Эўрабачаньні"

Украінска-беларуская грамадзкая ініцыятыва "Салідарнасьць" правяла акцыю ў падтрымку беларускага народу ў ягоным змаганьні супраць рэжыму. "Салідарнасьць" абвесьціла, што "час правядзеньня конкурсу "Эўрабачаньне" зьяўляецца ўнікальнай магчымасьцю прыцягнуць увагу эўрапейскай супольнасьці да беларускіх праблемаў і паказаць сваю падтрымку народу Беларусі ў ягоным імкненьні да свабоды." Акцыя праводзілася праз запаўненьне вуліцаў украінскай сталіцы бел-чырвона-белымі колерамі беларускага нацыянальнага сьцягу.

14-22 траўня ў Кіеве бачылі ўкраінскую моладзь у адзеньні бел-чырвона-белых колераў, налепкамі "Беларусь будзе вольнаю", зробленымі на дзевяці эўрапейскіх мовах. Беларускія нацыянальныя сцягі былі шмат дзе ў сталіцы "памаранчавай рэвалюцыі", куды прыехалі нашая моладзь зь Менску, Барысава, Магілёву, Маладэчна, Баранавічаў. На працягу ўсяго канцэрту "Эўрабачаньня" беларускія сцягі луналі разам зь іншымі нацыянальнымі сцягамі краінаў Эўропы.

### Падтрымалі выключаных студэнтаў

1 чэрвеня 2005 году ўкраінская грамадзкая арганізацыя "Нацыянальны Альянс", выказваючы сваю салідарнасьць зь беларускім народам, правяла флэш-моб пад назваю "Дайце ім вучыцца!" каля беларускай амбасады. Удзельнікі флэш-мобу ў тэатралізаванай форме зьвярнулі ўвагу кіяўлянаў на праблему выключэньня беларускіх студэнтаў з навучальных установаў за іх палітычныя перакананьні.

### Сустрэча зь міністрам

14 траўня адбылася сустрэча міністра замежных справаў Украіны Барыса Тарасюка зь лідэрам Нацыянальнага Альянсу Ігарам Гузём і прадстаўніком беларускага Маладога Фронту на Ўкраіне Ігарам Шчэкарэвічам. На сустрэчы акрамя Ігара Гузя прысутнічалі таксама іншыя ўкраінцы, якія былі затрыманыя ў Беларусі 26 красавіка.

Падчас сустрэчы абмяркоўвалася затрыманьне ў Менску 26 красавіка маладых украінцаў. Барыс Тарасюк распавёў пра працу МЗС Украіны ў накірунку вызваленьня затрыманых. Старшыня Нацыянальнага Альянсу Ігар Гузь падзякаваў міністру за падтрымку, асабліва адзначыўшы стараньні консула Ўкраіны ў Беларусі Васіля Сярдэгі. "Падтрымка МЗС моцна адчувалася", – акцэнтаваў Ігар Гузь.

Сябры Нацыянальнага Альянсу паднялі пытаньне пра скасаваньне рашэньня аб іхнай дэпартацыі зь Беларусі. Міністар замежных спраў Украіны паабяцаў прыкласьці ўсе намаганьні для пазытыўнага вырашэньня пытаньня, нават калі для гэтага прыйдзецца зьвярнуцца ў ААН.

Сп. Тарасюка зацікавіла ідэя беларуска-ўкраінскага каардынацыйнага цэнтру, стварэньне якога ініцыюе Нацыянальны Альянс. Асабліва Барыс Тарасюк падтрымаў ідэю прадстаўленьня навучальных месцаў ва ўкраінскіх ВНУ для прадстаўнікоў беларускай апазыцыйнай моладзі, якая была рэпрэсаваная на Бацькаўшчыне. Гэта пытаньне міністар ўзяў пад асабісты кантроль.

*Працяг на бачыне 8*

*У пачатку травеня на менскім радыё Unistar - 99,5 FM пабачыла сьвет новая аўтарская перадача Віктара СЯМАШКІ "Новая зямля". Яе стваральнік, вядучы навінаў і радыёрэпартажаў сталічнага этэру, таленавіты журналіст, а па-за этэрам вытанчаны знаўца беларускай музыкі , расказвае пра свой новы праект.*



**- Паступіўшы на факультэт журналістыкі БДУ, Вы сьвядома зьвязалі сваё жыцьцё з радыёэтэрам. Ці задаволеныя Вы выбарам, які зрабілі яшчэ ў юнацтве?**

У юнацтве, напэўна, хацелася адразу ўсяго й нічога. Але, дзякуй Богу, я ня ўсё вырашаю ў сваім жыцьці. Зараз журналістыка для мяне - перш за ўсё, рамяство, што дае нармальны заробак і магчымасьць выжываць. Прысутнічае ў пэўнай ступені й творчасьць, калі я расказваю аб тым, што мяне асабіста ўражвае й хвалюе. Праграма "Новая зямля" – прыклад такога падыходу.

**- Як Вы трапілі на радыё "Unistar"?**

Дагэтуль я працаваў на іншай станцыі - "ВА". Але так склаліся абставіны, што я мусіў пакінуць тую арганізацыю. Празь некалькі дзён мне патэлефанавала Служба інфармацыі "Unistar".

**- Ваш голас знаёмы шырокай аўдыторыі радыёслухачоў па выпускам навінаў. Ці пазнаюць Вас на вуліцах Менску?**

Не заўважаў такога. Дарэчы, знаёмыя й блізкія не пазнаюць майго голасу ў этэры. У жыцьці я зусім іншы.

**- Як зьявілася ідэя стварэньня праекту "Новая зямля"? З увядзеньнем 75% трансьляцыі беларускай музыкі на радыё зьмяніўся фармат усіх сталічных радыёстанцыяў. Дыджэі адчулі востры недахоп якаснай беларускамоўнай музычнай прадукцыі. Прычынай гэтаму стала нераскручанасьць беларускіх музыкаў, іх вядомасьць толькі сярод невялікага кола аматараў. Ці спрычынілася гэта да Вашай аўтарскай перадачы, якая нанова адкрывае беларускую музыку шырокай аўдыторыі?**

Я сам прайшоў шлях ад амаль што поўнага няведаньня айчыннае музычнае культуры да шчырай і бязьмежнай любові. Беларусь – краіна з найбагацейшай музычнай гісторыяй. Як нідзе, у нашай краіне захаваліся сотні тысячаў народных песьняў, музыка раньняга сярэднявечча й Рэнэсансу. Творы такіх беларускіх кампазытараў як Агінскі, Манюшка, Ельскі ўвайшлі ў сусьветную музычную спадчыну. Сёньня ў Беларусі – безьліч па-сапраўднаму ўнікальных гуртоў і выканаўцаў самых розных накірункаў. Таму, вельмі прыкра, што на родных прасторах часьцяком іх ведаюць яшчэ меньш, чым за мяжою. Паступова ў мяне склалася даволі вялікая база (толькі "фірмовых" плытак больш за 100) і, што цікава, зьявілася жаданьне ёю падзяліцца. А таксама зьмяніць папулярныя ў нас меркаваньні наконт таго, што беларуская музыка нічога ня вартая.

**- Вы кажаце, што прага расказаць слухачам, што ў Беларусі багата добрай музыкі натхніла Вас на ідэю стварэньня "Новай зямлі". А ці верыце Вы ў тое, што можна выхаваць густ да беларускай музыкі ў радыёслухачоў такім чынам?**

Выхаваньнем я не займаюся. А вось зьмяніць некаторыя меркаваньні й стэрэатыпы, даць штуршок праграма "Новая зямля" можа. Шмат хто з маіх калегаў і сяброў ужо ня скажа, што яму ад беларускай музыкі моташна. Моташна толькі ад аднаго прадстаўленага ў FM-дыяпазоне напрамку. Дый назваць гэта беларускай музыкай, нацыянальным здабыткам можна зь вялікай нацяжкай.

**- Кожная Вашая праграма вылучаецца разнастайнасьцю. Вы распавядалі пра знакамітыя гурт "Ляпіс Трубяцкой", рок-легенду "Ulis", "Рунаў", гурт фольк-року "Пастскрыптум", праект Веранікі Кругловай "Blox", гітовы гурт з Горадні "АЙША", джазмэнаў "Apple Tea" ды іншых. Калі пераглядзець гэты сьпіс, то цяжка вызначыць нейкае падабенства паміж гэтымі музыкамі. Вы наўмысна закранаеце ўсе музычныя напрамкі, каб прадэманстраваць радыёслухачам шырыню дыяпазона беларускай музычнай індустрыі?**

У першым выпуску "Новае зямлі" было заяўлена, што праграма будзе прадстаўляць айчынную музыку ўсіх магчымых напрамкаў і часоў. Я лічу, што гэта правільна. Каб кожны са слухачоў знайшоў сваё. Тым больш, гэта магчыма.

**- Многія музычныя крытыкі выказваюцца, што калі музычны аматар хоча паслухаць якасны беларускі музычны прадукт, ён вымушаны быць прыхільнікам або року, альбо фольк-музыкі. Ці пагаджаецеся Вы з гэтаю думкаю?**

На сёняшнім этапе, напэўна, так і ёсьць. Сапраўды, мы гэтай музыкай моцныя й вядомыя. Але рэальна знайсьці шмат чаго іншага, калі не звужаць уласныя густы. У нас шмат авангардыстаў (Князь Мышкін, Рацыянальная дыета, Нагуаль), электроншчыкаў (Buben, Kritchev vs Ban, Zvuuk), бардаў (Шалкевіч, Камоцкі, Цярэшчанка), растаманаў (Чык-Чык, Вірус Ліха), прадстаўнікоў мэдываль-музыкі... Часу ня хопіць, каб усіх пералічыць.

**- Здаецца, што FM-этэр праз норму ў 75 адсоткаў айчыннага музычнага гучаньня ня толькі не заахвочвае радыёслухачоў слухаць і купляць плыткі беларускіх музыкаў, а наадварот, вымушае выключаць радыё з-за таго, што гучаць адныя і тыя-ж кампазыцыі. Як радыё "Unistar" рэагуе на гэтую праблему?**

Зьяўленьне "Новай зямлі" – рэакцыя відавочная. Да таго-ж людзі, якім сапраўды цікава, што робіцца ў Беларусі ў музычным пляне, самі змогуць знайсьці тое, што ім да спадобы па-за межамі радыёэтэру.

**- У сваёй праграме Вы не абмінаеце і гурты, такія як "Крамбамбуля", якія трапілі ў так званы негалосны "чорны сьпіс". Не адчуваецца ціск з боку кіраўніцтва радыестанцыі на зьмест "Новай зямлі", на тое, пра каго можна ці непажадана распавядаць у этэры?**

У Беларусі шмат гуртоў і акрамя "забароненых". Між іншым, "Крамбамбулі" ў тым сьпісе няма. А што тычыцца кіраўніцтва, то ніякіх забаронаў ці ўціску я не адчуваю. Хутчэй наадварот.

**- Павінна ўдакладніць, што, зьвяртаючыся да "чорнага сьпісу", я мела на ўвазе гурты, якія стварылі творчае аб'яднаньне "Беларуская Ўнія Музыкаў". У яго ўвайшлі гурты "Палац", "Drum Ecstasy", "N.R.M.", "Нейра Дзюбель", Зьміцер Вайцюшкевіч, "Zet" і "Pomidor/OFF". Але-ж і "Крамбамбуля" адчувае ціск і яўную непажаданасьць сваёй прысутнасьці на беларускім музычным алімпе. Сьведчаньне гэтаму адмена імпрэзы гурта 8 чэрвеня. Ці ёсьць у Вас пляны прысьвяціць некаторыя са сваіх праграмаў гэтым выбітным музыкам?**

"Крамбамбуля" гучыць на нашым радыё штодзень. Як і на шматлікіх іншых. Уціск, мяркую, часовы.

*Пытаньні Віктару Сямашку задавала **Дамініка КНЯЖНІНА***

## Нашая фанатэка

# Фольк ці нью-эйдж? Выбяры сам

*"Госьціца" – "Пералёт-трава", Мн., 2004, "БМAgroup".*




У беларускай музыцы адбываюцца такія разнастайныя творчыя працэсы, што іншыя народы дзівіліся-б, а мы ўсё шукаем адаптацыі іх у яўна зьбедненай "сусьветнай" музычнай тэрміналёгіі. Гэта я наконт нашае спрэчкі ў інтэрнэце з рэдактарам "Музыкальной газеты", ці грае гурт "Стары Ольса" new age. І вось прадбачваю, якія аргумэнты ён будзе высоўваць, калі й музыку фальклёрнага тэатру "Госьціца" я назаву new age. Дык і назаву-ж.

У прадмове да гэтага выданьня я напісаў альтэрнатыўна: фольк ці нью-эйдж? Але няма сумненьняў, што творчая суполка "Госьціца", хоць і карыстаецца фальклёрным матар'ялам, усё-ж працуе ў востра сучасных, нават авангардных плынях мастацтва.

Дык што-ж такое нью-эйдж прынамсі ў маім разуменьні? Я ніколі не карыстаюся замежнай тэрміналёгіяй без адаптацыі яе ў рэальных умовах нашага навакольля. Бо нават на Захадзе музычная тэрміналёгія не ўзьнікла бязсэнсоўна. Панкамі (гнілымі галавешкамі), напрыклад, назвалі гурты, якія чымсьці й нагадвалі брудныя галавешкі, а тэрмін heavy-metal прыдумаў славуты Лестэр Бэнгс (глядзіце яго ў бліскучым галівудзкім фільме "Амаль знакаміты") калі яшчэ ў 60-х гадох пачуў у гітарыста гурта "Grand Funk Railroad" цяжкі мэталічны гук (heavy metallic sound). Яны выдумваюць тэрміны з рэальных пачуцьцяў, а мы толькі стараемся, каб нашы heavy-metal-гурты або панкі былі хоць зьнешне падобныя на іхніх. Але гэта кардынальна няправільна, бо нават у іхняй мэтадалёгіі аднолькавае гучаньне "Vanilla Fudge" і "Uriah Heep" дазваляе адносіць іх да клясыкі псыхадэлік-року (першы выпадак) і гард-року (другі выпадак).

Дык вяртаемся да "Госьціцы". Чаму я адношу яе да стылістыкі new age, хоць да Kitaro або Валенвэйдэраў яна не падобная? Ды проста new age узьнік на шляху зацыкленага ў касмапалітычных фармах сучаснага мастацтва, якое захацела вярнуцца да новага веку (new age) клясычных або жывых этнічных традыцыяў. Хтосьці пачаў сінтэзаваць новую музыку Сярэднявечча (як "Blackmore's Night"), хтосьці пачаў калупацца у старадаўніх азіяцкіх традыцыях (Kitaro), але ўсе яны хацелі стварыць новы век старога мастацтва.

Дык вось "Госьціца", якая працуе ў беларускай фольк-плыні, усё-ж выразна не імкнецца зьняць копіі нейкіх зьнешніх традыцыяў, ды нават амаль не ўжывае традыцыйнага інструмэнтарыя (гусьляў, дудаў, жалеек), але тонка стараецца перадаць самую энэргетыку, закладзеную ў творах, што дайшлі да нас з глыбінь стагодзьдзяў, пераўжыўшы нават памяць пра іхніх аўтараў.

Сваімі экспэрымэнтамі ў фальклёрнай плыні Ларыса Сімаковіч (кіраўніца тэатру "Госьціца") займаецца з 1986 году, тонка адчувае магутны дух беларускага фальклёру ня толькі ў поп-музыцы ("Песьняры", "Палац", "Юр'я", "Kriwi"), але й у клясычнай (І. Стравінскі, М. Глінка, М. Равенскі). Уласным крэда яна абрала плынь, як кажуць, паміж простым і складаным, г. зн. музыку трэйцяга напрамку. І гэта цікава ўжо тым, што сам фальклёр таксама існаваў у гэтай структуры ў часіны свайго рэальнага жыцьця. Мо менавіта таму недалёкія крытыкі й такія наватворы называюць фальклёрам. Але гэта новы век (new age) фальклёру.

Ларыса Сімаковіч бярэ творы, па сутнасьці, знаёмыя ўсім (прынамсі часткова): "Нова радасьць стала" (хрысьціянскі кант XVII ст.), народныя калядкі "Добры вечар таму", "Я скакала", "А ў заенькі", "Коляда", балядныя й бытавыя песьні "Гануся", "А ўжо-ж Іван наступае", "Куды едзеш, Рамане", вялікодныя "Вясёлачка", "Ой, на Вялікадня", купальскія "Сьвяты Йоанне" ды інш., але нават не імкнецца перадаць іхні зьнешні гук, а толькі дух, энэргетыку. А гэта куды больш важна!

Цікава, што ў фальклёрным (?!) тэатры "Госьціца" шырока выкарыстоўваюцца самыя авангардныя сродкі ўзмацненьня гэтае энэргетыкі, нават клясычная харэаграфія. Неяк у суполцы журналістаў і музыкаў (А. Мяльгуй, В. Александровіч, А. Плясанаў) я быў на прэзэнтацыі перад паказам у Эўропе новай праграмы калектыву "Русалчын панядзелак", дык ніякае перасьцярогі ў пераканаўчасьці нават не ўзьнікла. Дык вось на мультымэдыйным файле дыска спажывец знойдзе й фрагмэнты з іншага спэктаклю "Госьціцы", які мае назву "Нябога". Гэта будзе цудоўным падмацункам вашага асабістага асэнсаваньня творчага крэда "Госьціцы" (безумоўна, калі маеце ня толькі музычны цэнтар, але й кампутар). Слухайце, чытайце, асэнсоўвайце!

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

## Лісты ў рэдакцыю

У сакавіковым 506-м нумары "Беларуса" з цікавасьцю прачытаў артыкул "З гісторыі БАЗА". Асаблівую зацікаўленасьць выклікала тое, што прысьвечаны ён быў аддзелу БАЗА ў Дэтройце. Аўтар адзначыў, што "будзе ўдзячны чытачам за ўдакладненьні й дапаўненьні". Дык будучы адным з апошніх дзейных беларусаў у Дэтройце, хачу хоць крыху дапоўніць і ўдакладніць гісторыю дзейнасьці БАЗА ў Дэтройце. Памяць крыху варыць наконт ўспамінаў, але, нажаль, страчваюцца даты й прозьвішчы. Трагэдыяй нашай гісторыі сталася і тое, што страчаны амаль ўвесь архіў. Доктар Кіпель патрудзіўся й знайшоў архівы, якія датычацца беларускай дзейнасьці ў Кліўлендзе. А тым часам аддзел Кліўлендзкі й Дэтройцкі цесна супрацоўнічалі. Як успамінае аўтар артыкулу, аддзел дэтройцкі быў нешматлікім, але пераважна "інтэлігенцкім", а кліўлендзкі – "работніцкім". Ягоную рухаючую сілу скаладалі працавітыя палешукі, а лідэрамі былі Белямук, Калоша і Каляды, але да іх было і шмат моладзі.

У Дэтройце аддзел БАЗа заснаваўся ў 1950 годзе, як толькі туды прыехаў доктар Язэп Сажыч, пра якога чамусьці нават і ўспаміну няма ў артыкуле. А ён увесь час быў лідэрам грамадзкай і царкоўнай дзейнасьці. Да заснаваньня аддзелу вялікую дапамогу яму аказвалі Юрка Мазуро й Мікола Прускі, якія прыбылі ў Дэтройт крыху раней і пазнаёміліся з прысутнымі землякамі. Музыкант Ю. Мазуро скантактаваўся з кліўлендзкай моладзьдзю й зарганізаваў хор, езьдзячы туды на пробы пару разоў. Праз месяц ягоны хор пераняў М. Куліковіч.

Характэрнаю рысаю дзейнасьці нашага аддзелу было тое, што ён наладзіў добрыя адносіны са старою эміграцыяй, якая мела вялікія арганізацыі, і самою "Russian Temple". Апошняя прапанавала нам наладзіць канцэрт, што мы й зрабілі з дапамогаю кліўлендзкай на чале з Куліковічам. Гэта былі сьветлыя і шчасьлівыя гадзіны: старыкі проста плакалі й дзякавалі нас за такое культурнае "шоў", прапанавалі ўступіць у іхнюю арганізацыю й пераняць яе кіраўніцтва, бо нашчадкі былі ў гэтым незацікаўленыя. Аб гэтым пісаў у "Беларусе" доктар Янка Станкевіч, які хваліў нас за шырокую грамадзкую і культурную дзейнасьць.

Далей мы ўзяліся за наладжваньне сустрэчы беларусаў ЗША і Канады, здаецца, 6-й па ліку. Гэтая сустрэча, як высьветлілася, аказалася найбольш удалай, бо Дэтройт гэаграфічна знаходзіцца ў цэнтры беларускіх асяродкаў у Кліўлендзе, Чыкага й Таронта. Вялікія мастацкія сілы зладзілі цудоўны канцэрт: хор Кліўленду супольна з дэтройтцамі – салістам Мазурай і вядомай сьпявачкай Верай Лубнік. Апрача таго, выступалі Ірка Каляда, танцавальны гурток "Васілёк" на чале з Алай Орсай. Сустрэча прынесла людзям вялікае задавальненьне і надоўга засталася ў памяці. Хачу зазначыць, што колькасьць гасьцей была найвялікшая з часоў правядзеньня першай сустрэчы. Прыехалі такія знакамітыя дзеячы, як доктар Смаршчок з Мінэсоты, прафэсар Барыс Кіт, Вініцкія з Каліфорніі, госьці з Флярыды ды інш. У адной толькі маёй хаце начавалі 12 чалавек!

Ня памятаю дакладна, у якім годзе адбылася Канвэнцыя Рэспубліканскае партыі ЗША ў Дэтройце на чале з кандыдатам Р. Рэйганам. Але было гэта ў ліпені месяцы, якраз калі сьвяткаваўся "Тыдзень паняволеных народаў", а мы, беларусы, прымалі ў ім актыўны ўдзел. Зарганізавалі вялікую дэманстрацыю, бо ў гэтым часе ў Дэтройт зьехаліся карэспандэнты з усяе Амэрыкі. Падзялілі функцыі для кожнай нацыянальнасьці, а мне ўдалося пераканаць другіх, што ад Беларусі мусіць выступіць архіяпіскап Мікалай. Ён ішоў на чале вялікай калёны, за ім маршыравалі беларускія хлопцы й дзяўчаты з бел-чырвона-белымі сьцягамі. Дзякавалі ізноў-ж кліўлендцаў, якія масава прыехалі падтрымаць нас. Выглядалі мы досыць добра і эфэктна, а колькасна амаль не ўступалі тым-жа ўкраінцам, славакам ды інш. Нам быў адведзены асобны пляц з трыбунаю, дзе мы ўсе і заселі. Уладыка Мікалай прачытаў малітву па-ангельску. Раптам зьявіўся з суправаджэньнем прадстаўнічка ад Рэйгана – ягоная дачка Маўрын. Яна падыйшла да нашага Ўладыкі, прыкланілася перад ім і паведала, што кандыдат Рэйган вітае нас і дзякуе за падтрымку. Я, сядзеўшы блізка ад Уладыкі, пацалаваў яе руку. А гэтым часам маса карэспандэнтаў фатаграфавалі нас. У прэсе потым было шмат напісана аб удзеле беларусаў у "Тыдні паняволеных народаў". У далейшым "Тыдзень паняволеных народаў" сьвяткаваўся пераважна ва Украінскім культурным цэнтры, але з ня меншай актыўнасьцю беларусаў. Ушаноўваў нас сваей прысутнасьцю тады ўжо Прэзыдэнт Рэйган, а потым і Прэзыдэнт Дж. Буш-старэйшы. Я маю прагожую памятку: здымак, на якім паціскаю руку Бушу. Падышоўшы да яго, сказаў, што я – прадстаўнік Беларусі й заявіў, што маю да яго просьбу: "Як будзеце ехаць у Маскву, зазірніце па дарозе ў Менск, нашую сталіцу, дзеля маральнай падтрымкі нашага народу". Ён раптам падаў мне руку і сказаў: "Гэта добрая ідэя – буду памятаць аб ёй". У 1991 годзе ён выступіў на тэлебачаньні й з "вялікаю прыемнасьцю" заявіў, што "ЗША прызнае незалежнасьць Беларусі". Я плакаў і выпіў за нашую свабоду добрую чарку.

На заканчэньне аўтар артыкулу ўспамінае пра БАПЦ-царкву ў Дэтройце, будынак дзеля якой нібыта быў набыты "дзякуючы фінансавым укладаньням Язэпа Арцюха". На самой-жа справе грашовая падтрымка ішла ад Язэпа Сажыча. Аўтар піша, што "нажаль, са згасаньнем беларускага грамадзкага жыцьця ў Дэтройце – у 1999 годзе будынак прадалі". Хачу ўдакладніць, чаму прадалі, і хто за гэтым стаяў. Гэта быў Іван Брудзкі, якога ў нашай царкве высьвяцілі ў Уладыка Мікалай, які пазьней стаў Мітрапалітам Ізяславам – яго не хацела прызнаваць аніводная парафія БАПЦ. Тады ён падаў у суд і адсудзіў нашую парафію Сьвятога Духу, якую потым прадалі...

***Д-р Язэп САЖЫЧ***

Ліст сп. В. Кавалеўскага да рэдакцыі ("Беларус" №508б травень, 2005) падштурхнуў мяне да напісаньня гэтага ліста.

Газэта "Голас Радзімы" ёсьць беларускамоўная. Апошнім часам у ёй зьявіліся артыкулы й розныя паведамленьні па-ангельску. Трэба было-б спадзявацца, што ў беларускамоўнай газэце ўсе беларускія назвы (гэаграфічныя, імёны й прозьвішчы і г. д.) будуць трансьлітараваныя ў ангельскую мову зь беларускіх назваў. Дзе там! У ангельскіх тэкстах "Голасу Радзімы" трансьлітарацыя такіх назваў праводзіцца з... расейскай мовы. Дзеля прыкладу, беларускі Ўладзімер у "Голасе Радзімы" пішацца па-ангельску Vladimir.

Прывяду яшчэ некалькі прыкладаў падобнай транскрыпцыі з "Голаса Радзімы" №9-10, 10 сакавіка 2005 году. Nikolai Cherginets, Gomel, Grodno, Mogilev, Vitebsk, Victor Kharkov, Pavel Latushko, Pіotr Prokopovich.

Такі падыход да трансьлітарацыі нашых назваў ёсьць, далікатна кажучы, дзіўным і нічым не абгрунтаваным. Дзе тут справядлівасьць? Дзе логіка? Украінцы ды іншыя нацыі даўно адмовіліся ад перакладу сваіх назваў пасярэдніцтвам чужой мовы.

Ці ўжо не пара, каб і беларусы пачалі рабіць так, як робяць ня толькі нашыя суседзі, але і цэлы сьвет?

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

# АБВЕСТКІ

У Нью Ёрку ў травені месяцы 2005 году выйшла з друку сыгнальнае выданьне новай паэмы Зянона "Вялікае Княства". У паэме праз вобраз лірычнай асобы апісваюцца падзеі XVII і XX стагодзьдзяў.

* * * * * * *

Гульні футбольнага турніру, перанесенага ў травені, адбудуцца 26 чэрвеня 2005 г. па адрасу:

*Jewish Community Center*
*10100 Jaminson Ave*
*Philadelphia, PA 19116*
*(www.Phillyjcc.com)*

Спаборніцтвы будуць праходзіць ад 9-й гадзіны раніцы да 2-й папаўдні.

Пасьля заканчэньня гульняў адбудзецца банкет у рэстарацыі *Golden Gates*.

* * * * * * *

Жадаючыя замовіць наступныя запісы на *DVD*:

- 22-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 31 жніўня - 2 верасьня 1996 году ў Клiўлендзе, кошт $12;
- канцэрт 1-га верасьня 1996 году на 22-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, $12.
- песьні беларусаў у Клiўлендзе (1990-96), песьні клiўлендцаў, а таксама беларусаў з іншых месцаў, якія прыяжджалі туды з канцэртамі, кошт $12;

Зьвяртайцеся да сп. Міхася Калядкі:

***Michael Kalyadko***
***14080 Indian Creek Dr***
***Middleburg Hts, OH 44130***
E-mail: *mkoly92828@wideopenwest.com*
тэлефон: ***(440) 234-4601.***

Кошты пададзеныя з уліку перасылкі.

***працяг з бачыны 6***

Ігар Гузь расказаў міністру аб плянах арганізацыі, накіраваных на пашырэньне супрацоўніцтва зь беларускай апазыцыяй, у тым ліку аб бліжэйшых паездках сябраў Нацыянальнага Альянсу ў Беларусь.

Міністар падкрэсьліў, што ў выпадку, калі беларускі бок паўторыць свае дзеяньні, якія мелі месца падчас і пасьля падзеяў 26 красавіка ў Менску, пазыцыя Ўкраіны будзе прынцыповаю. МЗС Украіны будзе ўжываць усе меры, аналягічныя тым, якія выкарыстоўваліся для вырашэньня вышэйзгаданага інцыдэнту.

***Па матар'ялах беларускай прэсы й Нацыянальнага Альянсу***



# "Дайце ім вучыцца!"

Безтэрміновую галадоўку пратэсту аб'явілі ў Жодзіне 4 актывісты "Маладога фронту" Павал Красоўскі, Дзьмітры Чарткоў, Алесь Вінаградаў і Яўген Валкавец 25 траўня 2005 году. На такую меру яны пайшлі па прычыне выключэньня іх з навучальных установаў з-за іхняй грамадзкай дзейнасьці. Яны патрабуюць аднаўленьня іх у навучальных установах і спыненьня ўціску з боку адміністрацыі гэтых установаў.

Цягам тыдня да галадоўкі далучылася яшчэ некалькі чалавек. 31 траўня да моладзёвай галадоўкі далучылася пяцёра актывістаў дэмакратычнага руху. Гэта намесьнік састаршыні "Маладога Фронту" Валеры Мацкевіч (Бабруйск), прадстаўнік "Маладога Фронту" ва Ўкраіне Ігар Шчэкарэвіч (Кіеў), актывіст руху "Зубр" Міхась Кандрашоў (Барысаў), кіраўнік маладафронтаўскага адзьдзелу па масавых




акцыях Артур Фінькевіч (Менск), сустаршыня "Маладога Фронту" Зьміцер Дашкевіч. Такім чынам, колькасьць удзельнікаў гэтае акцыі дасягнула адзінаццаці чалавек.

Тым часам пачаўся збор подпісаў вядомых дзеячоў беларускае культуры й палітыкі пад патрабаваньнямі да ўладаў спыніць дзяржаўны тэрор у дачыненьні да моладзі й адначасова незаконна адлічаных навучэнцаў. Зварот плянуецца перадаць міністру адукацыі Беларусі Радзькову і Лукашэнку ў сераду 1 чэрвеня. У акцыі плянуюць ўзяць удзел Уладзімер Колас, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў і іншыя вядомыя людзі.

У Беларусі за год да прэзыдэнцкіх выбараў рэзка павялічыўся ціск на СМІ, грамадзкія арганізацыі, палітычныя партыі. Асабліва вялікі прэсінг улада аказвае на моладзь. Толькі за апошні месяц былі адлічаныя з вучобы 3 сябры апазыцыйных моладзёвых арганізацыяў.

# ПАДПІСКА

## на выданьні зь Беларусі на другую палову 2005 году

## З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:

| | *Назва, выдавец, мова* | *Пэрыядыч. друку* | *Кошт, $* |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 70 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 40 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 70 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | **Arche**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | **Дзеяслоў**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

## Жыхарам Беларусі (сваякам і знаёмым)

| | *Назва, выдавец, мова* | *Пэрыядыч. друку* | *Кошт, $* |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 7 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 10 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: ***hazetabielarus@att.net***

***Заўвага***: *газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*

***Падпіска працягваецца да 18 чэрвеня 2005 году.***

*Замовы й аплату своечасова дасылайце ў рэдакцыю на адрас:*
***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі, калі ласка, выпісайце на імя* ***BIELARUS.***

***Газэта "БЕЛАРУС"***

***бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.***

***Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. Орса-Романо | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| Р. Кардонскі | 50 |
| М. і З. Вашкевіч | 30 |
| Н. Гайнутдзінава | 30 |
| Д. Дабычына | 30 |
| В. Дворнік | 30 |
| Г. Дзем'яненка | 30 |
| В. Дудараў | 30 |
| В. Дуля | 30 |
| Ю. Дуровіч | 30 |
| Ю. і Л. Зэкавы | 30 |
| Г. Залеўская | 30 |
| І. Ігнатовіч | 30 |
| Т. Красоўская | 30 |
| М. Мухіна | 30 |
| А. Пархач | 30 |
| А. Пляшэвіч | 30 |
| Л. Пузач | 30 |
| А. Садоўскі | 30 |
| І. Чэрапаў | 30 |
| М. Пpускі | 25 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***

ISSN 1054-9455